# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 47 (665) ГОД XIII 24 ЛІСТАПАДА 1968 г. ЦАНА 60 гр.

# БГКТ

## ПРАЧНУЎСЯ ГАРАДОК

Быў час, калі Гарадок меў цудоўны харавы калектыў.

Пасля дзейнасць яго пачала занепадаць і, урэшце, гарадоцкі хор зусім перастаў існаваць. Засталіся толькі ўспаміны аб прыгожых народных песнях, якія гэты хор выконваў, аб незабыўных частушках у выкананні Ніны Мушынскай, Сашы Яроцкай і Ніны Цыванюк.

Прайшло амаль дзесяць год з таго часу, калі Гарадок славіўся ўсюды сваім хорам. І вось нядаўна, зноў у Гарадку пачалося. Пачалося на базе таго самага старога калектыву. Да былых харыстаў Ніны Мушынскай, Сашы Яроцкай, Ірэны Паўлючук, Вольгі Мядзведзеў, Любы Саврын, Надзі Парэмбскай, Веры Кардаш і Ніны Цыванюк, да гэтых старэйшых жанчын далучылася шмат дзяўчат з гарадоцкай трыкатажнай фабрыкі, а таксама іншых жыхарак Гарадка. Насельніцтва Гарадка ведала, што пачаліся рэпетыцыі хору. Усе чакалі на яго першае выступленне. І гэтае першае выступленне адбылося 8 лістапада ў мастацкай частцы акадэміі, якая была арганізаваная ўсімі мясцовымі ўладамі і арганізацыямі, у тым ліку і БГКТ.

Гарадоцкі дом культуры імя Кастуся Каліноўскага, аб якім гаварылі што ён завялікі для гэтай асады, стаў цесным, замалым у гэты дзень.

Пасля мастацкіх выступленняў школьнікаў, выйшлі на сцэну гарадоцкія жанчыны і дырыжор Сцяпан Копа. Пасля першай выкананай песні пакацілася бура апладысментаў. І гэтак было пасля кожнага нумара. А ўжо песні «Чорныя вочкі» і «Захацела бабуленька» да таго спадабаліся прысутным, што харысты змушаны былі выконваць два разы.

Пасля акадэміі адбылося спатканне з харыстамі прадстаўнікоў мясцовых улад, установ і арганізацый, на якім абавязаліся яны ўсебакова дапамагаць харавому калектыву.

Уладзімір Кот — старшыня мясцовай ГРН сказаў, што грамадская рада закупіць да канца года або ў першым квартале 1969 года мікрафоны для калектыву, бо дом культуры неакустычны і цяжка тут спяваць. ГРН будзе аказваць усялякую магчымую дапамогу.

— Мы харавы калектыў будзем падтрымоўваць фінансава, — паабяцаў прэзэс ГС-у Казімір Пшэсмыскі. — Няхай ён развіваецца і расслаўляе нашую мясцовасць.

Анатоль Кандрусік — кіраўнік трыкатажнай фабрыкі, заўсёды ідзе на руку сваім працаўнікам, якія біруць удзел у харавым калектыве.

— На культурную дзейнасць нашае прадпрыемства таксама мае пэўныя сумы, — сказаў Анатоль Кандрусік. — Будзем вам дапамагаць.

Сакратар грамадскага камітэта ПАРП Павел Кандрусік у сваім выступленні гаварыў аб маральнай падтрымцы калектыву з боку камітэта.

— Абяцаную ўсебаковую дапамогу, у тым ліку і фінансавую ГРН, ГС і фабрыкі, — падкрэсліў ён, — будзем лічыць як абавязацельства і будзем патрабаваць яе выканання.

Гэтыя абавязацельствы могуць гарантаваць развіццё і высокі ўзровень харавога калектыву. Трэба меркаваць, што гарадоцкі хор у хуткім часе будзе яшчэ слаўнейшы, чым калісьці. (мх)



Звыш двух мільёнаў членаў ПАРП і ўсе працоўныя людзі ў нашай краіне з вялікай увагай сачылі за працай V з'езда Польскай аб'яднанай рабочай партыі, які ацаніў чатырохгадовы перыяд, які прайшоў ад IV з'езда партыі, і адначасова вызначыў генеральную лінію партыі на найбліжэйшыя гады.

— V з'езд партыі — гэта новы, чарговы мілёвы крок у гісторыі польскага рэвалюцыйнага рабочага руху, — адзначыў І сакратар ЦК ПАРП Уладзіслаў Гамулка.

На здымку: прэзідыум і фрагмент залы ў час выступлення Уладзіслава Гамулкі.

# 40 гадоў творчай працы

40 гадоў працуе ўжо прафесар доктар Антаніна Абрэмбская-Яблонская над праблемамі славянскай лінгвістыкі. Асоба прафесар Яблонскай асабліва добра вядома ўсім, каго цікавяць праблемы беларускай лінгвістыкі і літаратуры. Ад шэрагу гадоў з'яўляецца яна загадчыкам кафедры беларускай філалогіі ў Варшаве, а таксама загадчыкам аддзялення беларутыністыкі Інстытута славяназнаўства Польскай акадэміі навук.

— Што схіліла Вас, — пытаю прафесар Яблонскую, — да зацікаўлення беларускай мовай і літаратурай?



Прафесар Яблонская адказвае:

— Лічу, што зацікаўленне з боку польскай навукі беларускай мовай і фальклорам з'яўляецца проста неабходнасцю. Многія факты з галіны польскай мовы і літаратуры можна зразумець толькі ведаючы добра праблематыку беларускай культуры. І наадварот: каб разумець беларускую літаратуру і культуру, трэба ведаць польскую гісторыю і польскую літаратуру. Абодва нашыя народы — польскі і беларускі — спалучаюць вузы доўгай супольнай гістарычнай традыцыі. Адсюль — з'ява вялікіх узаемных уплываў польскай і беларускай культур, якія назіраць можам хаця б на прыкладзе польскіх творцаў, звязаных паходжаннем і пачуццямі з Беларуссю і беларускасцю, як Міцкевіч, Сыракомля, Чачот, Манюшка і іншыя.

— Калі мы арганізавалі, — працягвае далей сваю гутарку праф. А. Яблонская, — кафедру беларускай філалогіі ў Варшаве, міністэрства патрабавала глыбейшай матывіроўкі гэтага мерапрыемства. «Чаму мае быць беларуская філалогія менавіта ў Варшаве?» — пыталі. Я тлумачыла, што гэта проста лагічная неабходнасць, што для польскага літаратуразнаўства і польскай лінгвістыкі неабходна ведаць беларускую культуру, якая знайшла трывалае адбіццё ў гісторыі польскай культуры.

Шлях да ролі беларусазнаўцы і карпатлівага выхаваўцы беларусазнаўчых кадраў быў у прафесар Яблонскай даволі складаны. Зацікаўленні яе шматбаковыя і абшырныя. Дактарат рабіла яна па філасофіі і толькі пазней зацікавілася праблемамі славянскай філалогіі. Ды не толькі славянскай. Хопіць

(Працяг на стар. 4)

# ПАСІЯ ЖЫЦЦЯ

Пачатковая школа ў **Грузцы**, Гайнаўскага павета, знаходзіцца за вёскаю, як бы была забыта «Богам і гісторыяй». Можна без пераўвелічэння сказаць, што, на шчасце, такіх школ у нас ужо нямнога. Калі мне давялося тут быць, дзень быў сонечны і ў нанятым памяшканні школы не адчувалася вялікага холаду. Але бывае тут халадзішча вялікае, ды і не толькі халадзішча. Памяшканне школы ад гаспадарскай кухні адгароджана часткова толькі плахтай, і калі ў зімовы дзень дымнік не хоча цягнуць або гаспадыня смажыць аладкі, дык трэба настаўніку з дзяцьмі наглытацца дыму, а нярэдка настаўнік вымушаны спыніць урок. У такіх умовах працуе **настаўніца Ніна Манцюк** з 23-асабовай групкай сваіх падапечных. Ніна — маладая настаўніца і ў Грузцы працуе другі год. Пакрыўдзіліся б гаспадары з Грузкі, калі б не дадаць, што стараюцца яны, каб пабудаваць новую школу, на што ўжо сабрана частка грошай. На колькі мне вядома, справа разбіваецца аб школьныя пляцы. Спадзяемся, што і гэтую справу вырашыць будучыня.

Нягледзячы на песімістычны, хоць праўдзівы, вобраз школы ў Грузцы, памыляўся б той, хто думаў бы, што няма тут ніякай дзейнасці. Грамадская, культурная і палітычная дзейнасць гуртуецца вакол партыйнай арганізацыі і гуртка БГКТ, а душой іх з'яўляецца кандыдат у ПАРП настаўніца Ніна Манцюк.

— З гуртком БГКТ справа выглядала па-рознаму. Калі я сюды паступіла на працу, яго не было. Потым прыехаў з лекцыяй аб 50-годдзі Савецкай Арміі актывіст з БГКТ з Гайнаўкі. Арганізавалі пры аказіі гурток. Потым не ведаю, што сталася, асталіся ў гуртку толькі мы двое, г. зн., я і адзін селянін. Зараз гурток зноў дзейнічае і працуе. Усе члены маюць аплочаныя за цэлы год членскія складчыны. Вельмі многа, як на нашую вёсачку, маем падпісчыкаў «Нівы». Чытаць «Ніву» люблю я і нашыя гаспадары за тое, што ў ёй можна знайсці і сур'ёзныя рэчы і да смеху, але ўсе яны нам вельмі блізкія, свае.

У школе настаўніца сістэматычна арганізуе фотавыстаўкі аб развіцці на-



вукі, асветы, тэхнікі ці сельскай гаспадаркі ў БССР. Н. Манцюк вырашыла разгарнуць чытальніцтва беларускай, ды і не толькі беларускай кніжкі сярод старэйшага насельніцтва. У мінулым годзе пазычала яна з аддзела БГКТ у Гайнаўцы кніжкі, якія потым пазычала старэйшым і дзецям. У гэтым годзе яшчэ не пачала абмену кніжак: усё ж з Грузкі да Гайнаўкі многа кіламетраў і многа трэба патраціць на гэта часу.

— Зімою часта адбываюцца рознага тыпу сходы, уключна з партвучобай. Людзі ахвотна, кожны па-свойму, дыскутуюць аб прачытаных кніжках, а часта і аб выбраных праблемах. Кніжкі, якія ім пазычаю, з'яўляюцца вялікім дапаможнікам у партвучобе, дзе я з'яўляюся кіраўніком. Мы разумеем, што вельмі многа зрабіць не можам, але хацелі б, каб да нас прыехала «Лявоніха» або іншы калектыў, можа хто-небудзь наведаў бы нас з фільмам, найлепш савецкім і ваенным. Гэта ні-

(Працяг на стар. 5)

Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі

СВЕТ | БССР | ПОЛЬШЧА | ВАЯВОДСТВА

## СВЕТ

### АБ V З'ЕЗДЗЕ ЗА МЯЖОЙ

V з'езд Польскай аб'яднанай рабочай партыі, у якім прыймала ўдзел каля 40 прадстаўнікоў братніх партый, шырокім рэхам адбіўся ва ўсім свеце. Асабліва многа месца V з'езду прысвяціла прэса сацыялістычных краін. Савецкая «Праўда», напрыклад, змяшчала матэрыялы пад загалоўкам «Высокая актыўнасць і палітычная сталасць на V з'ездзе Польскай аб'яднанай рабочай партыі», што з'яўляецца высокай ацэнкай з'езда. З вялікай увагай V з'езд ПАРП слядзіў друк, радыё і тэлевізія Вянгерскай Народнай Рэспублікі. Як вядома, вянгерская партыя адыгрывае важную ролю ў падрыхтоўцы да склікання міжнароднай нарады камуністычных і рабочых партый.

Трэба падкрэсліць, што шматлікія дэлегацыі замежных кампартый адразу з Варшавы выехалі ў Будапешт, каб прыняць удзел у камісіі, падрыхтоўваючай нараду.

### ЦІ ТОЛЬКІ МАРЫЯНЕТКІ

Прадбачваная сустрэча прадстаўнікоў ДРВ, ЗША, НФВ Паўднёвага В'етнама і сайгонскай адміністрацыі не адбылася. Афіцыяльна гаворыцца, што прычынай гэтага была сайгонская кліка, якая не хоча прыняць удзелу ў сустрэчы. У Злучаных Штатах былі нават галасы высокіх прадстаўнікоў амерыканскага ўрада аб тым, што ЗША гатовы да перагавораў нават без удзелу сайгонскай адміністрацыі. Галасы былі, але пакуль што засталіся яны толькі пустаслоўем. Свет задае пытанне: ці толькі сайгонскія марыянеткі адцягваюць гэтую сустрэчу?

### ЯК АДКАЗ НА АГРЭСІЮ

Урад Аб'яднанай Арабскай Рэспублікі зрабіў крокі ў кірунку мабілізацыі грамадства. Гэтыя крокі звязаны са шматлікімі і паўтараючыміся актамі агрэсіі з боку Ізраіля. Урад разгледзеў справу цывільнай абароны, аховы дзяржаўных будынкаў і ролі народных абаронных арганізацый. Прэзідэнт Насер заявіў: «Не можам патраціць ні пядзі арабскай зямлі. Ніколі не скапітулюем. Не маем іншай дарогі акрамя стойкасці і нязломнасці».

### ІНФАРМАЦЫЯ

Кітайская прэса поўнасцю апублікавала, без ніякіх каментарыяў, прамову Джонсана ў справе спынення бамбардзіровак ДРВ. Такім чынам грамадства Кітая ўпершыню паінфармавана аб размовах, якія адбываюцца ў Парыжы між прадстаўнікамі ДРВ і ЗША ад 6 месяцаў.

### ТУРЫЗМ У РУМЫНІІ

На працягу 9 месяцаў гэтага года Румынію наведала 1.250 тысяч замежных турыстаў, г. зн., на 50 тысяч больш, чым на працягу цэлага мінулага года. На румынскім пабярэжжы Чорнага мора на працягу лета адпачывала больш 400 тысяч турыстаў.

**А. Кар.**

## БССР

### КАСТРЫЧНІКА

Пяцьдзесят першая гадавіна Вялікай Кастрычніцкай Сацыялістычнай рэвалюцыі ў Мінску, сталіцы Беларусі, мела асабліва ўрачысты характар. (Святкаванні адбываліся напярэдадні 50-годдзя БССР і Кампартыі Беларусі).

На ганаровай трыбуне знаходзіліся палітычныя і дзяржаўныя кіраўнікі рэспублікі: П. Машэраў, Ц. Кісялёў, У. Лабанок, І. Макараў, У. Міцкевіч, С. Пілатовіч, І. Палякоў, А. Смірноў, Ф. Сурганаў, М. Полазаў, Г. Жабіцкі.

Камандуючы войскамі Чырвонасцяжнай Беларускай ваеннай акругі генерал-палкоўнік І. Трацяк, пасля ўрачыстага аб'езду войск, сфармаваных на плошчы да параду, выступіў з прамовай.

— Наша Чырвонасцяжная Беларуская ваенная акруга адзначае сёлета сваё 50-годдзе. Сучаснае пакаленне абаронцаў Радзімы дастойна працягвае слаўныя баявыя традыцыі герояў грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнаў. Радзіма ўручыла нам грозную і самую дасканалую зброю і баявую тэхніку. Нашы салдаты, сержанты і афіцэры — сапраўдныя майстры ваеннай справы, бязмежна адданыя справе камунізма. Войскі акругі знаходзяцца ў пастаяннай баявой гатоўнасці, — сказаў ген. І. Трацяк.

Былі выкананы дзяржаўныя гімны Саюза ССР і Беларускай ССР. Парад войск папярэдзілі залпы артылерыйскага салюта. Пасля парада адбылася дэманстрацыя працоўных сталіцы.

### ГРОДЗЕНСКАЙ

У Мінску адбыліся Дні Гродзенскай вобласці, прысвечаныя 50-годдзю Беларускай ССР і Кампартыі Беларусі. З гэтай нагоды, м. ін., 12 лістапада адбыўся ўрачысты вечар у зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Удзельнічалі ў ім сакратары ЦК КП Беларусі У. Міцкевіч і С. Пілатовіч, намеснікі Старшыні Савета Міністраў Беларускай ССР Р. Кісялёў і С. Кішкін, а таксама іншыя асабістасці.

Прамовы мелі: ударніца камуністычнай працы В. Саламаха, празаік Пілiп Пестрак, Герой Сацыялістычнай Працы настаўніца А. Казей, першы сакратар Фрунзенскага райкома камсамола Валеры Харловіч, першы сакратар Гродзенскага абкома КПБ І. Мікуловіч, які м. ін. сцвердзіў:

— Не пазнаць цяпер Гродзеншчыны. Яна стала вобласцю прамысловай індустрыі, развітай сельскай гаспадаркі. 218 прамысловых прадпрыемстваў даюць самую разнастайную прадукцыю. Цяпер наша прамысловасць выпрацоўвае 35 працэнтаў цэменту. 73 працэнты кардону, 35 прац. абутку. 23 працэнты фанеры, 25 працэнтаў цукру да агульнага аб'ёму вытворчасці гэтай прадукцыі ў БССР. Кожны чацвёрты аўтамабіль Савецкага Саюза ходзіць з карданным валам гродзенскага завода «Аўтазапчастка».

### ТУРГЕНЕВА

На Беларусі адзначаецца 150-годдзе з дня нараджэння вялікага рускага пісьменніка Івана Сяргеевіча Тургенева.

(С. Я.)

## ПОЛЬШЧА

### V З'ЕЗД

У днях ад 11 да 16 лістапада адбыўся V з'езд Польскай аб'яднанай рабочай партыі. Прыняло ў ім удзел 1759 дэлегатаў, а таксама прадстаўнікі камуністычных і рабочых партый з 40 краін. У час 5-дзённай дыскусіі над дакладам тав. Уладзіслава Гамулкі мела голас 86 дэлегатаў, прадстаўляючых усе раёны краіны, а таксама грамадскія і прафесіянальныя асяроддзі. Усебакова абмеркаваны былі асноўныя ідэйныя, палітычныя, гаспадарча-грамадскія і культурныя праблемы. Вынікам дыскусіі была прынятая ў апошні дзень пасяджэнняў пастанова, вызначаючая асноўныя напрамкі дзейнасці ў галіне грамадска-гаспадарчага развіцця краіны, сацыялістычнай дэмакратыі, асветы і культуры, акрэсліваючая становішча нашай партыі ў адносінах да праблем міжнароднага рабочага руху і палітычнай сітуацыі ў свеце. Пастанова падкрэслівае, што асноўным заданнем у далейшым развіцці сацыялістычнага будаўніцтва і сацыялістычнай дэмакратыі з'яўляецца ўмацаванне кіруючай ролі Польскай аб'яднанай рабочай партыі.

Сярод агульнай колькасці 1759 дэлегатаў найбольш, бо 1091 асоб (што складае 61,9 працэнта), было рабочага паходжання 535 дэлегатаў — гэта значыць, 30,3 працэнта — было сялянскага паходжання, а астатнія 138 дэлегатаў, гэта значыць, 7,8 працэнта, выходзіла з працоўнай інтэлігенцыі. На асаблівае падкрэсленне заслугоўвае факт, што сярод дэлегатаў з'езда было 631 рабочых, працуючых непасрэдна ў вытворчасці. У гэтым ліку знайшлося між іншым 140 рабочых металургіі, 68 шахцёраў, 33 чыгуначнікі, 36 рабочых сельскай гаспадаркі. Сялян прадстаўлялі на з'ездзе 188 дэлегатаў; 167 сярод іх гаспадаруе індывідуальна, а 21 належыць да спулдзельняў прадукцыйных. Партыйную інтэлігенцыю прадстаўлялі на з'ездзе 227 інжынераў і тэхнікаў, 65 аграномаў, 95 працаўнікоў навукі, асветы і культуры, 191 эканамістаў і дзесяткі спецыялістаў іншых галін жыцця.

У суботу 16 лістапада ў перапынку паміж пасяджэннямі адбылося першае пленарнае пасяджэнне новавыбранага Цэнтральнага Камітэта, на якім выбрана было 12 членаў Палітычнага Бюро і 4 іх намеснікі, 9-асабовы Сакратарыят і 36-асабовая Рэвізійная камісія. Членамі Палітбюро выбраны **Уладзіслаў Гамулка, Юзэф Цыранкевіч, Эдвард Герэк, Балеслаў Яшчук, Стэфан Ендрыхоўскі, Зэнан Клішка, Станіслаў Кацёлэк, Уладзіслаў Кручэк, Ігнацы Лёга-Савінскі, Мар'ян Спыхальскі, Рышард Стшэлецкі, Юзэф Тэйхма.** Намеснікамі членаў Палітбюро выбраны **Уладзіслаў Ягельскі, Пётр Ярашэвіч, Мечыслаў Мочар і Ян Шыдляк.**

Першым сакратаром ЦК ПАРП выбраны **УЛАДЗІСЛАЎ ГАМУЛКА.**

У склад Сакратарыяту ўвайшлі таварышы **Уладзіслаў Гамулка, Балеслаў Яшчук, Зэнан Клішка, Мечыслаў Мочар, Стэфан Альшоўскі, Артур Старэвіч, Рышард Стшэлецкі, Ян Шыдляк, Юзэф Тэйхма.** (п)

## ВАЯВОДСТВА

### ВІНШУЕМ

У выніку выбараў цэнтральных партыйных улад, праведзеных V з'ездам ПАРП, у склад Цэнтральнага Камітэта партыі паўторна ўвайшоў таварыш А. Лашэвіч — І сакратар Ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку. Апрача тав. А. Лашэвіча членам ЦК ПАРП выбралі таксама Браніслава Цюлу, які з'яўляецца дырэктарам фастаўскага базоўна-апрацоўчага камбіната. Намеснікам члена ЦК ПАРП выбраны брыгадзір Беластоцкай фабрыкі жалезных прылад Тадэуш Плаўскі. У склад рэвізійнай камісіі ПАРП увайшла Луцыя Дэмянюк, якая з'яўляецца дырэктарам водна-меліярацыйнага тэхнікума ў Беластоку. Членам Цэнтральнай камісіі партыйнага кантролю выбралі старшыню Ваяводскай камісіі партыйнага кантролю ў Беластоку тав. Мікалая Кірылюка. Сардэчна віншуем і жадаем ім поспехаў у адказнай працы.

### ГОЛАС У ДЫСКУСІІ

Сярод 86-ці удзельнікаў дыскусіі, якія выступілі на трыбуне V з'езда ПАРП, быў таксама тав. А. Лашэвіч. Гаварыў ён аб найбольш істотных праблемах гаспадарчага і грамадска-палітычнага характару Беласточчыны і ўсёй краіны.

«Беластоцкая партыйная арганізацыя, — заявіў ён, — так, як і ўся партыя, прыходзіць на V з'езд узмоцненая колькасна, згуртаваная ідэйна і палітычна, з новым запасам вопыту, які мы здабылі ў барацьбе, накінутай нам міжнароднымі і ўнутранымі сіламі рэакцыі і рэвізіянізму...»

І далей:

«На працягу апошняга чатырохгоддзя, гэта значыць, у 1965—1968 гадах, у параўнанні да 1961—1964 гадоў здзейснілася выдатнае развіццё сельскай гаспадаркі Беластоцкага ваяводства. Ураджай збожжавых культур павялічыўся на 3,4 цэнтнераў з гектара, бульбы — на 13 цэнтнераў з га, цукровых буракоў — на 48 цэнтнераў з га, рапсу — на 6,9 цэнт. з га. Пагалоўе кароў узрасло за гэты час на 8,9 прац., а свіней — на 17 прац. ... За міжз'ездаўскі перыяд мы змеліяравалі і загаспадаравалі амаль 58 тысяч гектараў сенажацяў і выганаў. Усяго за гады народнай улады вярнулі мы для вытворчасці амаль 136 тысяч гектараў дагэтуль бескарыснага балота і дасягнулі з яго сярэдні ўраджай 60 цэнтнераў сена з гектара...»

Поўны тэкст прамовы тав. А. Лашэвіча друкавала «Газета Беластоцкая» і «Трыбуна Люду».

### БЕЛАСТОЧЧЫНА З ПАРТЫЯЙ

Калі ў Варшаве, у прасторнай Кангрэсавай зале Палаца культуры і навукі адбываўся V з'езд ПАРП, у вёсках і гарадах Беластоцкага ваяводства грамадзяне інтэнсіўнай працай выяўлялі падтрымку і давер партыі. На прадпрыемствах рабочыя сталі на з'ездаўскую вахту, прымалі новыя прадукцыйныя абавязацельствы, а ў вёсках масава ішлі да працы грамадскім чынам.

В. Р.




**Niedziela, 24.XI.**

9.40 Program dnia. 9.45 TV Kurs Rolniczy: „Krzyżowanie trzody chlewnej w produkcji towarowej". 10.20 „Przypominamy, radzimy". 10.30 „Podwójny nelson" — film TVP („Stawka większa niż życie"). 11.25 „Książę dla księżniczki" — film („Przygody trzech muszkieterów (odcinek ostatni). 11.50 Dziennik. 12.10 „Melodie na dzień dobry". 12.30 „Bitwa o Anglię" — film („Polacy na frontach II wojny światowej"). 12.50 „Sezam muzyczny" — muzyka i poezja twórców rosyjskich i radzieckich. 13.30 „W starym kinie". 14.30 „Przemiany". 15.25 Teatrzyk dla przedszkolaków: A. Chodorowska — „Kubek mleka". 16.05 „Kadryl w Janowie" („Ludzie i zdarzenia"). 16.25 „Świat i książka". 16.40 „Teatr TV na świecie". A. Czechow: „Nauczyciel". 17.40 „Spotkanie z pisarzem" — Roman Bratny. 18.10 „Teatrzyk trzech". 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 „Fatalny list" — film TV ang. 21.45 PKF. 21.55 „Niedziela Sportowa". 22.15 „Ewa i dom" — film („Ewa").

**Poniedziałek, 25.XI.**

15.35 Program dnia. 15.40 i 22.25 Politechnika TV, kurs przygotowawczy. 16.45 Dziennik. 16.55 Dla dzieci: „Kino Ptyś". 17.10 Dla dzieci: „Zręczne ręce". 17.25 „Tramp". 17.45 „Gorąca linia". 18.20 „Eureka". 18.50 „Spacerkiem po kinach". 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 Studio współczesne: A. Brycht — „Raport z Monachium". 20.45 „Las teutoński" — program dok. 21.15 Film. 22.05 Dziennik.

**Wtorek, 26.XI.**

9.00 Dla szkół (kl. II lic.) Język polski. J. Słowacki: „Balladyna". 9.30 „Nocny gość" — film fab. ang. 10.50 Przerwa. 12.30 i 15.05 Przysposobienie Rolnicze: „Żywienie zimowe bydła". 13.05 Przerwa. 15.00 Program dnia. 15.40 i 22.45 Politechnika TV I roku. 16.45 Dziennik. 16.55 Dla młodych widzów: „Pożar w kopalnii' — rep. 17.15 Dla młodych widzów: „Jak dawniej latano" cz. II („Klub pod Smokiem"). 17.45 „Nie tylko dla pań". 18.05 „7 milionów młodych'. 18.20 TV Kurier Warszawski. 18.40 „Wizyta u projektantów". 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 „Jerzyki" albo „Nie jestem ptakiem". 20.35 „Mazowiecka oferta". 21.05 „Nocny gość" — film fab. ang. 22.25 Dziennik.

**Środa, 27.XI.**

9.55 Dla szkół (kl. VII) Historia: „Marsz, marsz, Dąbrowski". 10.25 „Gdybyś był jedyny na świecie" — film („Dr Vojeck") 11.15 Przerwa. 11.55 Dla szkół (kl. VI) Fizyka: „Nacisk i ciśnienie". 12.25 Przerwa. 15.05 Program dnia. 15.10 „Matematyka w szkole" — „Własności figury dwukołowej, zastosowanie". 15.40 i 22.45 Politechnika TV, kurs przygotowawczy. 16.45 Dziennik. 16.55 Dla dzieci: „Zwierzyniec". 17.25 „Telekram". 17.35 TV Kurier Białostocki. 17.50 „Za kierownicą". 18.20 „Rita Hayworth" („Sylwetki X Muzy"). 18.45 „Droga Karpacka" — program publ. 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 „Gdybyś był jedyny na świecie" — film („Dr Vojeck"). 20.55 „Światowid". 21.25 PKF. 21.35 Studio 63: „Obrachunki Boyowskie" cz. III. 22.25 Dziennik.

**Czwartek, 28.XI.**

9.55 Dla szkół (kl. I lic.) Język polski. Dante: „Petrarka". 10.30 Przerwa. 10.55 Dla szkół (kl. VII) Język polski: „Adam Mickiewicz". 11.25 „Człowiek z karabinem" — film fab. radz. 12.55 Przerwa. 15.35 Program dnia. 15.40 i 22.20 Politechnika TV I roku. 16.45 Dziennik. 16.55 Dla młodych widzów: „Ekran z bratkiem". 18.00 „W kolejce po koszyk" — rep. film. 18.15 „Azymut". 18.45 „Wielkie miłości" — „Dafnis i Chloe" M. Ravela. 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 „Trybuna Telewizyjna". 20.35 „Żelazny Krzyż" — film TVP („Stawka większa niż życie"). 21.35 „Klaps". 22.05 Dziennik.

**Piątek, 29.XI.**

10.30 „Żelazny Krzyż" — film TVP („Stawka większa niż życie"). 11.30 Przerwa. 15.35 Program dnia. 15.40 i 22.10 Politechnika TV, kurs przygotowawczy. 16.45 Dziennik. 16.55 Dla dzieci: „Miś z okienka". 17.10 TV Kurier Mazowiecki. 17.25 „W przestworzach, czyli ciekawe opowieści lotników". 17.40 „Z drugiej strony szklanego ekranu". 17.55 „Kino Filmów Amatorskich". 18.25 Wszechnica TV: „Biologowie przy pracy" („W pracowniach polskich uczonych"). 18.55 „Definicje" — teleturniej. 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 „Kontakty". 20.35 Teatr TV. K. Choiński: „Sztandar". 21.35 „10 minut recenzji". 21.50 Dziennik.

**Sobota, 30.XI.**

8.30 „Miecz i waga" — film fab. fr. 10.55 Dla szkół (kl. V) Geografia: „W stolicy Kraju Rad". 11.25 Przerwa. 12.45 Dla szkół. (kl. VIII) Geografia — „Kanada". 15.40 Program dnia. 15.45 TV Kurs Rolniczy: „Prawidłowe warunki wychowu prosiąt". 16.25 Program Tygodnia. 16.45 Dziennik. 16.55 Dla młodych widzów: „Z dokładnością do jednego mikronu" — turniej szkół zawodowych (Warszawa — Poznań). 18.00 Program filmowy estradowy „Operacja Circeo" wł. 19.00 „Gawęda o współczesności". 19.20 „Dobranoc". 19.30 „Monitor". 20.10 „Głupia sprawa" — kabaret literacki. 21.10 Dziennik. 21.30 „Wiadomości Sportowe". 21.40 „Tele-Echo". 22.20 „Miecz i waga" — film fab. fr.




**Piątek, 22 listopada**

7.30 Dla szkół. 14.50 „Nowiny". 15.00 Program dnia. 15.05 Film dokumentalny o Majakowskim. 15.50 Festiwal Filmowy TV Białoruskiej. 16.20 Film krótkometrażowy. 16.55 „5+2". 17.30 Koncert finałowy Dni okręgu Mohylewskiego. 21.00 Almanach turystyczny. 21.30 „Sala tańców". 22.00 „Na dobranoc".

**Sobota, 23 listopada**

6.25 Program dnia. 6.30 Dla techników. 7.00 Gimnastyka. 7.45 Dziennik. 8.00 „Jubileusz". 8.30 „Reportaż sobotni". 9.00 „Wiedza". 9.45 W eterze „Młodość". 10.15 Festiwal Filmowy TV Białoruskiej. 11.00 Spektakl TV dla dzieci. 12.30 „Zdrowie". 13.00 Koncert. 13.30 Almanach TV. 14.30 TV barwna. 17.00 Zasłużony artysta Litewskiej SRR D. Bonijonis. 28.15 „Czas". 19.05 „Żenia, Żenieczka i „katiusza". Komedia filmowa. 20.40 Koncert świąteczny (powtórzenie z 7.XI.). 21.40 „Tylko fakty".

**Niedziela, 24 listopada**

6.25 Program dnia. 6.30 Dla techników. 7.00 Gimnastyka. 7.15 Dziennik. 7.30 „Budzik". 8.00 „Dla was, kobiety" 8.30 „Człowiek ziemi mojej". 8.50 „Szkatułka muzyczna". 9.05 „Kronika życia muzycznego republiki. Lata 1929—30". 9.50 Dla uczniów. 10.20 Dla dzieci. 11.00 Dla żołnierzy. 11.30 „Klub wiejski". 12.30 „Białe i czarne". 13.15 Teleturniej. 13.50 „Knot". 14.00 „Kiosk muzyczny". 14.30 TV barwna. 17.00 Akrobatyczny mecz TV. Moskwa — Kijów — Mińsk. 18.15 „Rozkwit białoruskiej kultury narodowej". 18.45 Spektakl Białoruskiego Państwowego Teatru Dramatycznego im. J. Kupały.

 

# Раман пра Грамаду

Беларускі паэт Міхась Машара прадпрыняў каштоўны замысел: ён рашыў напісаць вялікі раман-хроніку пра Беларускую сялянска-работніцкую грамаду. Першая частка гэтага рамана — **«Крэсы змагаюцца»** — паявілася ў продажы два гады таму назад. Тады менавіта аб ёй інфармавала сваіх чытачоў наша «Ніва».

Летам гэтага года дзяржаўнае выдавецтва «Беларусь» у Мінску выпусціла ў свет другую частку «грамадаўскага» рамана Міхася Машары — **«Сонца за кратамі»**.

Падзеі, якія разыгрываюцца на старонках гэтай другой часткі трылогіі, пераносяць нас на 40 год назад у нашае мінулае. Вяртаемся на коратка, на паўтара года: ад пачатку зімы 1927 года да вясны 1928 года. Гэта вельмі знамянальны перыяд у гісторыі змаганняў беларускага люду з так званых «усходніх крэсаў» за свае палітычныя і нацыянальныя правы.

Пісьменнік вядзе нас у самае сэрца гэтай масавай, але і баёвай беларускай арганізацыі. Мы знаёмімся з заснавальнікамі Грамады, з адказнымі працаўнікамі яе Сакратарыята. Пазнаем іх не застыўшымі ў бронзе на цокале помніка. Пазнаем жывымі, такімі, якімі былі яны ў будзенныя дні, сярод сям'і, сярод сяброў і супрацоўнікаў. Вось кіраўнік Грамады Браніслаў Тарашкевіч са сваёй прыгожай жонкай. Вучоны, прафесар. І адначасова звычайны, непасрэдны чалавек, аднолькава шчыры ў адносінах да простага мужыка, як і да нейкага пана ці інтэлігента. Вось сялянскія паслы Мятла і Валошын, бачым іх у час грамадскай працы, калі забываюць пра сваю асабістую небяспеку і бачым іх таксама ў вясёлай кампаніі пры чарцы гарэлкі, калі спяваюць, смяюцца, жартуюць. Вось грамадаўскі «туз», шляхціц Луцкевіч, які заўсёды хаваецца за плечы другіх, а на звычайных людзей глядзіць зверху... І многа, многа другіх актывістаў грамадаўскага руху.

Гэта адзін бок барыкады. На другім яе баку — незвычайна разбудаваны апарат тэрору і прыгнёту. Гэта работнікі дэфензівы, паліцэйскія афіцэры, пракуроры, следчыя, суддзі і адвакаты. І яны пад пяром пісьменніка аджылі поўным сваім жыццём. І зноў няма тут аднабаковых замалёвак. Гэтыя цёмныя тыпы даваеннай Польшчы выступаюць у рамане, як і другія людзі. У іх свая рацыя быту, у іх свае прычыны і свае абаснаванні іх дзейнасці, у іх свая філасофія. Сярод іх таксама сустракаем розных людзей і па характару, і па паводзінах.

Міхась Машара — сам грамадавец. Аднак, як відаць з рамана, ён не спасьлаўся толькі на ўласныя ўспаміны, не даверыў таму, што засталося ў памяці. Ён сягнуў глыбей: шматгранную, гаманлівую і поўную руху вежу дзейнасці і трагічнай смерці Грамады ён адбудаваў на аснове неапраўвяргальных дакументаў. Ім толькі паверыў. Іх асколкі знаходзім на старонках аповесці.

Адначасова Міхась Машара **напісаў сапраўдны раман з усімі яму прыналежнымі асаблівасцямі, а не падручнік гісторыі.**

Ад падзей, якія ажывіў у сваім рамане Міхась Машара, мінула ўжо амаль паўстагоддзя. Вядома ўсім, як карэнна змяніліся грамадскія ўмовы і жыццё людзей за гэты час. Узнікае ў сувязі з гэтым важнае пытанне: як наблізіць да цяперашняга чытача імкненні і хваляванні тых людзей, каб матывы іх дзеяння былі нам блізкія і зразумелыя?

Гэтыя праблемы аўтар рамана «Сонца за кратамі» вырашыў наогул паспяхова, хаця, на маю думку, раман перагружаны аўтарскімі публіцыстычнымі каментарыямі.

Для нас, жыхароў Беласточчыны, гэтая кніга мае асаблівае значэнне: яе дзеянні часткова адбываюцца і на нашай зямлі. Я перакананы, што раман «Сонца за кратамі» будзе карыстацца ў грамадзян Беластоцкага ваяводства яшчэ большым поспехам, чым «Крэсы змагаюцца». Той кніжкі ў кнігарнях Беластока ўжо няма. Яе хутка раскупілі. Напэўна, не залежыцца на палках і другая частка. Нецярпліва будзем чакаць на трэцюю, апошнюю частку трылогіі Міхася Машары. Жадаем яму поспехаў у творчай працы.

**Віктар Рудчык**

## Беларусіяна

### Аб беларусах па-беларуску

Многія выдаваныя ў Польшчы часопісы маюць шматмоўны характар. Друкуюцца ў іх артыкулы на англійскай, рускай, французскай, нямецкай і іншых «сусветных» мовах. Зразумела, беларуская мова да такіх не належыць. Публікаваны ў Варшаве Камітэтам Славяназнаўства Польскай акадэміі навук часопіс «Slavia Orientalis» змяшчае аднак шмат артыкулаў і на беларускай мове. У апошнім, 3 нумары гэтага часопіса знаходзім між іншым публікаваныя на беларускай мове артыкулы: «Аб беларускіх дыялектычных рысах заходняга пагранічча» Анны Арашонкавай і Юзэфа Мацкевіча, «Аб развіцці недысімілятыўнага акання ў беларускіх гаворках» Ніны Вайтовіч, «Акцэнтацыя і камбінаторыка галосных польскай гаворкі ў Палессі» Вячэслава Вярэніча, «Заўвагі аб моўных асаблівасцях «Дзённіка» Ф. Еўлашэўскага» Аркадзія Жураўскага і «Фразеалагізмы ў IV томе «Ludu Białoruskiego» Міхала Федароўскага», напісаны вядомым беларускім збіральнікам прымавак, прыказак і фразеалагізмаў Фёдарам Янкоўскім.

У апошнім нумары гэтага часопіса беларускай праблематыцы прысвечана таксама некалькі артыкулаў на польскай мове. Вядомы познаньскі славянавед, які шмат сваіх прац прысвяціў беларускім гаворкам, Уладзіслаў Курашкевіч піша на гэты раз аб паходжанні назвы ракі Прыпяці. Працаўнік кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта Эльжбета Смулкова разглядае некаторыя асаблівасці беларускіх гаворак Беласточчыны ў артыкуле: «Szkic systemów fonologicznych ruskich gwar Białostocczyzny wschodniej».

Чытача з Беласточчыны зацікавіць можа артыкул працаўніка Польскай акадэміі навук Міхала Кандрацюка аб тым, адкуль узяліся падвойныя назвы некаторых вёсак Беласточчыны. Маюцца на думцы вёскі, афіцыяльныя назвы якіх не адпавядаюць народным. Аўтар разглядае назвы такіх вёсак, як Давідавічы (Стрыльце), Доўгі Брод (Мацкевічы), Дубіны-Скрыплева (Казьмірэ), Дубіны-Совіныгрунт (Поедынакі), Красноўшчызна (Поддольнэ), Нікіфароўшчызна (Ліксіюкі).

Іншыя публікацыі апошняга нумара «Slavia Orientalis», друкаваныя на польскай, рускай, украінскай, сербахарвацкай, славенскай і балгарскай мовах, датычаць розных праблем гэтых моваў. Варта таксама падкрэсліць, што апошні нумар прысвечаны шматгадоваму кіраўніку Кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта прафесар доктар Антаніне Абрэмбскай-Яблонскай з нагоды 40-годдзя яе навуковай працы. Асобе прафесар А. Яблонскай прысвечаны ў гэтым нумары часопіса ўступны артыкул Уладзіслава Курашкевіча. Даведваемся з яго аб жыццёвым і навуковым шляху А. Яблонскай. (п)

## КУЛЬТУРНАЯ ХРОНІКА



### ТРАДЫЦЫІ ПОЛЬСКАЙ АБ'ЯДНАНАЙ РАБОЧАЙ ПАРТЫІ Ў БЕЛАСТОЦКІМ ВАЯВОДСТВЕ

Гэтакая тэма выстаўкі ў Музеі рэвалюцыйнага руху ў Беластоку. Сабраны тут у багатым складзе постаці людзей, якія выкавалі на нашых землях народную ўладу. Людзі з ППР, людзі з антыфашысцкага падполля, і яшчэ раней, людзі з КПП, КПЗБ, людзі з Незалежнай сялянскай партыі і Беларускай сялянска-работніцкай грамады. Увогуле, камуністы. Іх дзейнасць паказваюць дакументы, лісты, фатаграфіі.

Як прыйшоў дзень свабоды? Як ствараўся адналітны фронт рабочага класа? Як дайшло да аб'яднання рабочага руху? На гэтыя пытанні цікавым спосабам адказвае ўспомненая выстаўка. Карціну рабочага руху Беласточчыны дае яна на фоне краіны і, найважнейшае, вучыць. Варта таму паглядзець выстаўку, каму ўспомніць, а каму прыпомніць...

### «ГАЙНАЎКА 68»

Гэта назва групы, якая пакуль што налічвае 15 асоб і складаецца з мастакоў-аматараў. Група працуе ў Гайнаўцы пры Саюзе польскіх настаўнікаў і пад апекай беластоцкіх мастакоў. Гуртуе ўсіх мастакоў-аматараў з ваяводства. Формы працы: сустрэчы, выстаўкі, дыскусіі. Кіруе групай **Яўген Давідзюк.** Здаецца, што група мастакоў-аматараў «Гайнаўка—68» мае вялікую будучыню. Калі мы запыталі **Яўгеня Давідзюка,** што думае ён аб шматлікіх аматарах-мастаках на вёсцы, адказаў: усіх іх запрашаем да нас. Разам будзем вучыцца і працаваць. Адрас: Гайнаўка, Дом ЗНП, група «Гайнаўка—68».

### У ПРЫЯЦЕЛЯЎ БЕЛАВЕЖЫ

Госцем прыяцеляў Белавежы быў др **Лешэк Грым** з Польскай акадэміі навук. Расказаў пра Швецыю, краіну лясоў — 70 працэнтаў агульнай паверхні краіны (Польшча — 24 прац.). Нашы сувязі са Швецыяй сягаюць у глыбокую старыну, часы ледавікоў. Якраз вялікія ледавікі прыходзілі на нашы землі са Швецыі, пакідаючы пасля сябе мноства камення, якога яшчэ маем поўна на нашых палях. (вл)

## ПАДВОЕНЫ НАБОР У „ТРОЙКУ“

# Аб цяжкасцях канкрэтна і... прыемна

Пачатковая школа № 3 у Бельску, папулярна званая ад свайго нумара «тройкай», з'яўляецца адзінай у нас гарадской пачатковай школай, у якой навучаецца беларуская мова. У ёй дзеці з розных канцоў горада. Знаходзіцца яна ў цэнтральным месцы, у будынку Беларускага ліцэя. Менавіта яе цэнтральнае размяшчэнне з'яўляецца той умовай, без якой не змагла б належным чынам выконваць сваёй спецыфічнай ролі ў нацыянальна мешаным, бо гарадскім асяроддзі. Не змагла б. Гэта ўсім ясна. Разам з тым, такой школе перад усім, неабходны высокакваліфікаваны настаўніцкі калектыў і дбайнае кіраўніцтва. Усё гэта «тройка» мае, і таму невыпадкова наглядаецца буйнае развіццё яе, дакладней кажучы, вялікі націск кандыдатаў. За апошнія гады лік вучняў павялічыўся з каля трохсот да чатырохсот дваццаці. Звыш ста больш!

Дзесяткі бацькоў хацелі паслаць дзяцей у гэту школу і сустрэліся з адмоваю. З прычыны недахопу месц. Мясцовыя асветныя ўлады падышлі да справы са зразуменнем: **інспектар М. Татарчук даў дазвол адкрыць у наступным навучальным годзе два першыя класы.** Два! Падаем гэта да ведама бацькам, якія страцілі надзею, што ўдасца ім запісаць дзіця ў школу № 3.

Праўда, існуе некалькі падвойных, паралельных класаў. Гэта старэйшыя класы. Падваенне ж колькасці вучняў цэлай школы немагчымае па прычыне цеснаты. Толькі цеснаты. Праблема, над якой моцна думаюць дырэктар Беларускага ліцэя М. Гайдук і кіраўнік Пачатковай школы № 3, Я. Суліма. Патрэбны аднак працяг зразумення і канкрэтнай дапамогі з боку Інспектарата асветы ды яго кіраўніцтва перш за ўсё. Ёсць магчымасць вылучыць у будынку яшчэ аж тры дадатковыя памяшчэнні для класных заняткаў: шляхам ліквідацыі кацельнай, якую замяніла б цэнтралізаваная абагравальная сетка ад пошты. Вырашэнне, якое ліквідавала б цеснату. Сапраўды, справа вартая найбольшых захадаў!

Вельмі трапна зазначыў дырэктар М. Гайдук, што ліцэй і пачатковая школа з'яўляюцца непадзельнай цэласцю. Пачатковая школа № 3, яе дынаміка мае выразны ўплыў на тэмпы развіцця ліцэя, перспектывы яго развіцця. Зараз ліцэй **атрымаў дазвол на тры паралельныя класы**. У недалёкай будучыні колькасць ліцэістаў павялічыцца найменш на трэць. Значыць, для нашай моладзі больш пашыраны магчымасці атрымання сярэдняй і вышэйшай адукацыі наогул, а па беларускай мове — у асаблівасці.

Усе гэтыя — можна без вагання сказаць — пераломныя здабыткі нашага бельскага школьніцтва родзяць акрэсленыя цяжкасці. Такая логіка развіцця. І, як не дзіўна, але з прыемнасцю адчуваюцца гэтыя ж цяжкасці, бо яны — сведчанне поступу наперад. (С.Я.)




### ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Тэатр лялек «Свершч» запрашае ўсіх на цікавую п'есу «Качку-дзяячку». Гісторыя «Качкі-дзяячкі» надзвычай павучальная. З п'есай тэатр «Свершч», як заўсёды, адведае многія мясцовасці ва ўсім ваяводстве для таго, каб як найбольш дзяцей магло пабачыць свой тэатр і сваіх герояў.

На здымку: Качка-дзяячка, п'еса **Збігнева Папраўскага,** рэжысерыя — **Кшыштоф Рэн,** музыка — **Ежы Максымюк,** сцэнаграфія — **Дарота і Ежы Лабаноўскія.**



 

# 40 гадоў творчай працы

(Працяг са стар. 1)

сказаць, што праф. А. Яблонская з'яўляецца адначасова сіналогам (спецыялістам па кітайскай мове) і мае апублікаваных некалькі прац з гэтай далёкай і цяжкой для вывучэння галіны. Працы прафесар і яе вучняў над беларускімі гаворкамі Беласточчыны, а ў асаблівасці над назвамі мясцовасцей і ўрочышчаў, патрабуюць ведання літоўскай мовы (многія нашыя назвы маюць балтыйскае паходжанне).

— Я ўжо некалькі гадоў, — гаворыць прафесар, — сплю з літоўскай граматыкай пад падушкай. Для вывучэння дыялектаў Беласточчыны неабходна веданне некалькіх моваў, у тым ліку і літоўскай.

Усур'ёз беларускай праблематыкай прафесар Антаніна Яблонская пачынае займацца ў 1954 годзе. Становіцца яна тады загадчыкам секцыі беларусазнаўства ў Польска-савецкім інстытуце. Па яе ініцыятыве і пры яе намаганнях пачынаюцца тады тры асноўныя напрамкі працы, якую беларусазнаўцы ў Польшчы вядуць па сённяшні дзень: працы над польска-беларускім і беларуска-польскім слоўнікам, вывучэнне беларускіх дыялектаў Беласточчыны, праца над публікаваннем фальклярыстычнай спадчыны М. Федароўскага. Апрача навуковых прац, ужо тады па яе ініцыятыве праводзіцца праца па падрыхтоўцы будучых кадраў беларусазнаўцаў. Для зацікаўленых асоб — працаўнікоў навукі — праводзяцца ў Інстытуце курсы па сучаснай беларускай мове і беларускай дыялекталогіі, а таксама курс чытання старацаркоўных тэкстаў.

У 1958 годзе секцыя беларусазнаўства становіцца часткай Інстытута славяназнаўства Польскай акадэміі навук. Крыху раней, бо ў 1956 годзе, засноўваецца кафедра беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта. Прафесар Антаніна Абрэмбская-Яблонская кіруе гэтымі абедзвюма ўстановамі.

У чэрвені 1961 года першыя 10 асоб атрымалі дыпломы магістраў беларускай філалогіі. Рассыпаліся яны па ўсёй краіне, працуючы настаўнікамі, грамадскімі дзеячамі, працаўнікамі розных установ, якія патрабуюць знаўцаў беларускай мовы. У пачатковым этапе працы кафедры трэба было звяртацца за кадравай дапамогай у Савецкі Саюз. Хутка аднак ва універсітэце выраслі ўласныя кадры працаўнікоў навукі і выхаваўцаў. Гэта таксама адно з дасягненняў прафесар А. Яблонскай.

— Праца цяпер, — гаворыць яна, — вельмі прыемная, бо большасць нашых беларусазнаўцаў — гэта беларусы родам з Беласточчыны, якія адчуваюць эмацыянальнае заангажаванне і энтузіязм у сваёй працы.

Колькасць беларусазнаўцаў расце, так як растуць і будуць расці іх працы аб беларускай мове і культуры, пашыраючы ў гэтай галіне веды беларусаў і палякаў. Гэты ўзрост польскага беларусазнаўства абавязаны ў вялікай меры працы і намаганням прафесар Антаніны Абрэмбскай-Яблонскай. Можна яе смела паставіць у доўгім спіску палякаў, пачынаючы ад блізкіх сяброў Адама Міцкевіча, а канчаючы на Федароўскім і Пяткевічу, якім так многа абавязана беларуская культура. Таму пажаданні далейшай творчай працы, якія складаем прафесар А. Яблонскай, будуць самыя шчырыя і самыя цёплыя.

**Ул. Паўлючук**

# ГАСПАДАР

Добрых гаспадароў у нашых вёсках многа. Многа людзей адукаваных, разумных, гаспадарлівых, заангажаваных. Але нямнога ёсць такіх, як Рыгор Пятроўскі з Орлі, людзей, якія б умелі так дасканала ладзіць паміж сабою дзесяткі розных грамадскіх абавязкаў, а адначасова вясці дасканала, на найвышэйшым узроўню сваю гаспадарку.

Рыгор Пятроўскі атрымаў не абыякое прызнанне з боку гаспадароў усяго Бельскага павета. На апошнім павятовым з'ездзе сельскагаспадарчых гурткоў выбралі яго прэзэсам павятовага саюза сельскагаспадарчых гурткоў у Бельску. Прэзэс — функцыя грамадская і Пятроўскі, нягледзячы на высокую пасаду, і далей гаспадарыць у Орлі, як і ўсе яго суседзі. Высокая пасада аднак з'яўляецца вынікам шматгадовай плённай працы ў сельскагаспадарчых гуртках.

Гаспадары ў Орлі згуртаваліся ў арганізацыю, мэтай якой была механізацыя гаспадарскіх работ, яшчэ ў 1957 годзе. Заснавалі яны тады т.зв. машынновую суполку. Прэзэсам суполкі выбралі Рыгора Пятроўскага. Запісалася каля 40 асоб. Пастанавілі на пачатак купіць малацільны агрэгат. Калі падлічылі, што на пакупку гэтую трэба ўплаціць па 600 злотых ад асобы, пачаліся звычайныя ў такіх выпадках клопаты: многія члены не захацелі плаціць і пачалі выступаць з суполкі. Засталося 25 чалавек. Агрэгат быў куплены і ў сезоне пачаў сваю працу. Хутка вярнуліся выдадзеныя на пакупку грошы, і машына пачала даваць даход.

Потым суполка пераарганізавалася ў сельскагаспадарчы гурток. Гурток закупіў першы ў Бельскім павеце сялянскі трактар. Члены сельскагаспадарчага гуртка цешыліся, суседзі глядзелі аднак з падазронасцю і недаверам.

— Ужо гаспадароў з іх не будзе, калі з трактарамі заняліся, — гаварылі адны.

— Там, дзе трактарамі ездзяць, хлеба не было і не будзе, — паўтаралі іншыя.

А трактар араў ужо палі гурткоўцаў. Народ хутка пераканаўся ў карысці, якую дае ў гаспадарцы трактар. У мінулым годзе сельскагаспадарчы гурток у Орлі меў ужо 6 трактараў і ўсе мелі поўна работы. Зараз у Орлі існуе машына-трактарная база, забяспечваючая машынамі мясцовых сялян.

На працягу 6 гадоў Рыгор Пятроўскі быў прэзэсам свайго сельскагаспадарчага гуртка. Адначасова ўвесь час уваходзіў ён у склад прэзідыума Павятовага саюза сельскагаспадарчых гурткоў.

Сельскагаспадарчыя гурткі, як лёгка дадумацца, не адзіны грамадскі абавязак Пятроўскага. Ён жа радны Ваяводскай рады нарадовай, член Камісіі здароўя і грамадскай апекі ВРН, старшыня рады ГС, сакратар грамадскага камітэта Аб'яднанага людовага стронніцтва (ЗСЛь).

А чалавек гэты не першай маладосці. Яму ўжо 60 год.

Гаспадарыць Рыгор Пятроўскі пачаў рана, маючы ўсяго 12 гадоў. Было па-рознаму. Раслі дзеці, якім трэба было даць хлеб ды навуку. Усе чацвёра — два сыны і дзве дачкі — пакончалі школы ды пачалі працаваць у розных дзяржаўных установах. Бацькі засталіся адны на гаспадарцы. Засталіся, але не на тое, каб наракаць на жыццё, залажыўшы рукі. Гаспадарка Рыгора Пятроўскага — адна з найлепшых у Орлі.

— Стараюся, як магу, — тлумачыць Пятроўскі, — але мушу вам прызнацца, што ўжо не даў бы сабе рады з гаспадаркай, калі б не механізацыя. Мы цяпер нічога амаль не робім уручную. Падлічыў я, што на аплату за карыстанне машынамі выдаю каля 8 тысяч злотых у год. Выдатак гэты аднак аплачваецца.

І так плыве жыццё Рыгора Пятроўскага, поўнае працы і турбот, творчай радасці, але не толькі радасці.

— Людзі часта не могуць зразумець, — гаворыць сябра Пятроўскі, — што чалавек можа заняцца грамадскай працай зусім бескарысліва. Падазраюць ва ўсім нейкую асабістую карысць. А я за ўвесь перыяд народнай улады нават ані разу не меў, ды не стараўся мець аніякай ільготы у сваіх гаспадарскіх абавязках у адносінах да дзяржавы. Ды ўсе свае грамадскія функцыі выконваю толькі таму, што люблю заўсёды рабіць нешта добрае.

**Ул. Паўлючук**

# ПЕРАПІС ЖЫВЁЛЫ

Ваяводскае статыстычнае ведамства паведамляе, што ў днях ад 2 да 6 снежня г.г. **на тэрыторыі цэлага Беластоцкага ваяводства будзе праведзены перапіс коней, кароў, свіней, авечак, курэй, гусей, качак і індыкаў.** Гэты перапіс не ахоплівае ўсе гаспадаркі, а толькі вытыпаваныя шляхам лясавання. З кожных 100 сялянскіх гаспадарак перапісная камісія вылясуе 10 і ў іх будзе праводзіць дакладны перапіс усяго, што актуальна там знаходзіцца.

Уласнікі гаспадарак, вылясаваных да перапісу, **абавязаны** падаць членам перапіснай камісіі актуальную колькасць рознай жывёлы. **Нельга нічога затойваць. Члены перапіснай камісіі будуць самі асабіста ўсё пералічваць у хлявах.**

Ваяводскае статыстычнае ведамства тым гаспадарам, у якіх будзе праведзены перапіс, **гарантуе захаванне поўнай таямніцы.** Вынікі перапісу будуць выкарыстаны выключна да статыстычных даследаў і **ў ніякім выпадку не з'яўляюцца асновай для ўстанаўлення падатку, дзяржпаставак і іншых абавязкаў сялян.** Няма чаго баяцца і трэба ўсё шчыра паказаць членам перапіснай камісіі.

(вр)

# Настаўнік-выхавацель у клубе "РУХ"

Вельмі часта чуем аб цікавых ініцыятывах культурна-асветнай працы клубаў «Рух». Велізарную ролю ў гэтым адыгрываюць настаўнікі. Каб распаўсюдзіць багаты вопыт настаўнікаў у гэтым напрамку, Галоўнае праўленне ЗНП і Цэнтральнае праўленне «Рух» аб'явілі конкурс на працу літаратурна-публіцыстычнага характару (апавяданне, рэпартаж, справаздача, хроніка) на тэму грамадскай дзейнасці настаўнікаў у вясковых і маламястэчковых клубах «Рух».

У конкурсных работах асабліва трэба паказаць лакальнае асяроддзе з яго культурна-абычаёвай традыцыі; умовы працы клуба і найчасцей прымяняемыя формы і метады дзейнасці; асабісты ўклад пішучага ў развіццё культурна-асветнай дзейнасці пляцоўкі і ангажаванне да працы ў клубе мясцовага асяроддзя.

У конкурсе могуць прыняць удзел усе настаўнікі, заангажаваныя ў грамадскай дзейнасці клубаў «Рух». Працы трэба перасылаць на адрас: Zarząd Główny ZNP, Zespół Pracy Społeczno-Oświatowej, Warszawa ul. Spasowskiego 6/8.

Арганізатары прадбачваюць багатыя ўзнагароды: I узнагарода — 6.000 зл. II дзве па — 4.000 зл., III. дзве па 2.000 зл., IV дзесяць па 1000 зл. і V дваццаць па — 200 зл.

(ак)

50-ГОДДЗЕ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ (3)

# ДА ЗАНЯПАДУ

Адбудаваная, незалежная дзяржава ахоплівала сваімі граніцамі 388 тыс. кв. км, на яе тэрыторыі пражывала 27 млн. жыхараў. Па складу насельніцтва Польшча была шматнацыянальнай дзяржавай. Паводле афіцыяльнага перапісу з 1921 года, украінцы складалі 14% усяго насельніцтва, яўрэі — 7,8%, беларусы — 3,9%, немцы — 3,8%. Меншыя па колькасці былі руская, літоўская і чэшская меншасці. Маладая дзяржава разрывалася ўнутранымі супярэчнасцямі, барацьбой рабочых і сялянскіх мас з буржуазным і памешчыцкім прыгнётам, а таксама яўнай апазіцыяй нацыянальных меншасцей.

Палітычны воблік Рэчыпаспалітай фармавала некалькі палітычных партый: пачынаючы ад правіцы — Нацыянальная дэмакратыя і зблізаная да яе Хрысціянская дэмакратыя, затым некалькі груповак, якія прадстаўлялі народны рух, — наймацнейшай з іх была «Пяст», налева ад народных груповак знаходзілася Польская сацыялістычная партыя. Камуністычны рух дзейнічаў у падполлі і быў пазбаўлены непасрэдных уплываў на кіраванне, хоць яго палітычная роля была вельмі вялікая.

Нарастанне ўнутраных цяжкасцей і міжпартыйнай барацьбы давяло да палітычнага крызісу, які выкарыстаў Пілсудскі, зрабіўшы пераварот у маі 1926 года. Пілсудскі стаў фактычным дыктатарам, а тыя палітыкі, што былі ў апазіцыі да «начальніка», аказаліся ў турмах або на эміграцыі. У Брэсце і Бярозе нявалілі ўсіх: побач з Карфантым і Вітасам знаходзіліся беларускія сяляне, побач з віленскай інтэлігенцыяй сядзелі рабочыя з Лодзі і Варшавы. Палка і турма сталі метадам кіравання і паляпшэння палітычных адносін.

Аднак барацьба прыгнечаных класаў не слабне. Побач з рухам рабочых узмацняецца радыкальны сялянскі рух. Прыкладам гэтага былі сялянскія забастоўкі ў Старасельцах Кракаўскага ваяводства і на Жэшаўшчыне. У апазіцыі знаходзяцца нацыянальныя меншасці — беларуская і украінская. Супярэчнасці паміж грамадствам і правячай санацыяй усё больш мацнеюць. Правячы клас душыць тэрорам забастоўкі і сялянскія бунты.

Адначасова санацыйныя правіцелі стараюцца сваю дыктатарскую ўладу прыкрыць шырмай законнасці, і таму ў 1935 годзе было вырашана ўвесці новую канстытуцыю.

У параўнанні да канстытуцыі з 1921 года, яна рабіла вялізны крок назад і ліквідавала шмат дагэтуляшніх правоў людзей працы. Давала поўную ўладу правячай групе, якая, уласціва, ні перад кім не была адказнай («перад Богам і гісторыяй» — цытата з канстытуцыі). Аб гэтай канстытуцыі, прынятай у красавіку 1935 года (таму — красавіцкая), у палітычнай літаратуры гаворыцца, што яна ўвяла элементы фашызацыі краіны. Усе звенні ўлады былі падначалены прэзідэнту, былі ўрэзаны правы Сейма і грамадзянскія свабоды.

У замежнай палітыцы група санацыйных правіцеляў кіравалася памылковай, класава абмежаванай канцэпцыяй. Шмат гаварылася аб вялікадзяржаўнай палітыцы, гістарычнай місіі Польшчы і любой цаною, нягледзячы на небяспеку з боку Германіі, пазбягалі бліжэйшых кантактаў з Савецкім Саюзам. Пасля прыходу да ўлады Гітлера, у 1934 годзе польскі ўрад падпісаў з Германіяй дагавор аб ненападзенні. Дадатковай гарантыяй у выпадку ўзброенага канфлікту з Германіяй быў саюз з Англіяй і Францыяй. Да 1938 года скрывалі перад народам усё часцейшыя патрабаванні гітлераўскай Германіі. Перад набліжаючайся трагедыяй асцерагала ў сваіх адозвах КПП. У адозве, выдадзенай КПП летам 1938 года, пісалася: «У такі пераломны для дэмакратыі Польшчы момант Камуністычная партыя Польшчы выцягвае братэрскую далонь да сацыялістаў, левых, дэмакратаў, да працуючых каталіцкіх мас, да ўсіх, хто гатоў змагацца з ненавісным санацыйным рэжымам і тэндэнцыяй за дэмакратычную, мірную замежную палітыку, за ўрад даверу народных мас, за ўрад выратавання Польшчы. Давайце аб'яднаемся ўсе, хто жыве з працы ўласных рук і розуму, аб'яднаем усё, што ў нашым народзе чэснае і патрыятычнае, у дэмакратычны народны фронт, фронт выратавання Польшчы».

КПП, на год перад трагедыяй, даслоўна на некалькі тыдняў перад правакацыйным і няслушным рашэннем аб яе роспуску, выразна асцерагала перад небяспекай з боку Германіі. Заклікала да супрацоўніцтва ўсіх, хто жадаў свабоды і змагаўся з санацыйным прыгнётам.

Санацыйны ўрад вёў палітыку сля-

# ТРЫБУНА чытачоў

## Б'ЮЦЬ І ПЛАКАЦЬ НЕ ДАЮЦЬ

У нас неяк так пазялося, што зусім не гаворыцца або вельмі мала звяртаецца ўвагі на тое, як чалавек паводзіць сябе дома, як адносіцца да жонкі, дзяцей, бацькоў. Ёсць шмат сем'яў у вёсцы, у горадзе, дзе ў хаце нязноснае жыццё, проста «пекла». Мала таго, што ад лаянак, ад брыдкіх выражэнняў і абразлівых зваротаў цяжкое робіцца жыццё, але часта не абыходзіцца без пабояў, амаль здзекаў над жонкай, бацькамі і свэімі роднымі дзецьмі.

Можна пачуць такую думку, што пабояў такога роду найбольш на вёсцы, найбольш сярод рабочых. Можа гэта і праўда. Але вельмі часта яны сустракаюцца ў горадзе і ў сем'ях людзей з высокай адукацыяй.

Ёсць зноў нічым не абаснаваны здзек і над дзецьмі. Даводзіцца сустракацца з такімі фактамі, што бацькі выхоўваюць дзяцей толькі і выключна моцнай рукой, біццём. І як не дзіўна, гэта найбольш датычыць маці. Многія маці часта за кожнае глупства, б'юць дзяцей. Даволі быць маці панервованай, як яна абавязкова наб'е дзіця, наб'е яго нават тады, калі яно зусім не вінавата. І добраму дзіцяці так часам бацькі сваёй неразвагай растрэплюць нервы, што і яно становіцца такім жа выбуховым, такім жа неразважным, як бацькі.

Пакаранні біццём вядуць часта да няшчасных выпадкаў. А вось адзін выпадак у Беластоку на вуліцы Жэмесльнічай. Хлапец з адзінаццатага класа з калегамі выпіў віна і разам з імі, прыйшоўшы дахаты, пачаў прасіць у бацькоў 200 зл. на наваголні баль. Хацеў ён сустрэць новы год з дзяўчынай і складчына ад аднае асобы была 100 зл. Ён хацеў зрабіць сваёй любай навагодні падарунак у выглядзе запрашэння на баль за 100 зл. Ён стаў прасіць у бацькоў грошай, а маці ў гэты час схапіла шчотку ад замятання падлогі і давай яго лупцаваць.

— На табе 100 злотых, на табе яшчэ другія 100 злотых.

Сын стаў уцякаць але ўжо не мог. Не пераступіў парог і ўпаў. Забрала яго хуткая дапамога. Праз некалькі дзён памёр. Маці ўдарыла сына шчоткаю ў скронь і ён не вытрымаў — памёр. Не хочучы, забіла маці сына. Вось да чаго можа давесці пакаранне біццём.

**М. Сваяк**
Беласток

## ПРАДУКЦЫЯ КАШОЎ

Прыпушчанскія вёскі ў раёне Арэшкава масава займаюцца саматужным пляценнем кашоў. На іх ёсць вялікі попыт. Скупляе іх дзяржава. За дзень адзін чалавек, калі салідна папрацуе, можа зарабіць 200 злотых.

Гэты факт стварае цяжкасці для лясных улад, якія адчуваюць недахоп рабочых. Няма ахвотнікаў быць лясным рабочым, а гэта таму, што там значна меншыя заработкі.

Пляценне кашоў ў прыпушчанскіх вёсках павышае жыццёвы ўзровень сялян. (мм)

---

як кожны, хто зрабіў добрую работу.

На другі дзень чорны Мерседэс з эскортам імчаўся шашою з Белавежы на Пружаны. На заднім сядзенні каля нямецкага афіцэра сядзеў наш былы сябра старшы лейтэнант Аляксандр Чаўрыкаў, афіцыйны намеснік групы «Дальнія», цяпер — агент нямецкай разведкі.

Як дайшло да гэтага?

Як потым высветлілася, дзевятага лістапада, у часе сутычкі з жандармерыяй, Чаўрыкаў з-за карчоў атрымаў удар прыкладам карабіна па галаве. Страціў прытомнасць, немцы яго схапілі і завезлі ў цэнтр нямецкай разведкі ў Белавежы. Ратуючы жыццё, падпісаў дэкларацыю аб супрацоўніцтве з нямецкай разведкай. Паколькі сапраўды не мог знайсці нас, немцы далі яму заданне адправіцца на ўсход і адшукаць капітана Хмялеўцава. Блукаў доўга, барада вырасла большая, чым уяўляў маёр Савелі. Але калі звязаўся з Хмялеўцавым, згодна з абяцанкай, дадзенай маёру Савелі, сказаў усю праўду, сумленна прызнаўся сам да ўсяго.

Спалоханы тым, што здарылася, Хмялеўцаў паслаў шыфроўку ў Маскву. Адтуль атрымаў загад адправіць Чаўрыкава на адзін з партызанскіх аэрадромаў. Чаўрыкаў паляцеў у Маскву.

**Ян Анацік**

Ліст з Гродна

## ШУКАЮ СЫНА

Паважаная рэдакцыя! Я даведалася, што ў Беластоку выходзіць газета на беларускай мове. Вырашыла да вас напісаць.

Разам са мною жыве бабуля, два сыны якой загінулі ў гады апошняй вайны. Адзін з іх загінуў у Беластоку. Вучыўся ён тут у педагагічным інстытуце. Магчыма, што праз вашую газету ўдасца знайсці людзей, якія яго ведалі і ведаюць абставіны яго гібелі.

Зваўся ён Літвін Міхаіл Іванавіч. Нарадзіўся ў 1914 годзе ў вёсцы Гліняны, ранейшага Скідзельскага раёна, Гродзенскай вобласці. Быў членам КПЗБ, дэлегатам Народнага сходу ў Беластоку, а нейкі час быў дырэктарам Скідзельскай школы.

Незадоўга да вайны паступіў у пед-інстытут у Беластоку. Вельмі добра вучыўся і атрымоўваў павышаную стыпендыю. Ходзяць весткі, што Міхаіла павесілі ці расстралялі ў першыя дні вайны. Магчыма, што ў Беластоку ёсць людзі, якія хоць што-небудзь ведаюць аб ім.

Я вельмі прашу вас, паважаная рэдакцыя, памагчы нам у гэтых пошуках.

З паважаннем да Вас маці Міхаіла Анна Сямёнаўна Літвіна і пляменніца Валянціна Уладзіміраўна Ярашэвіч

Гродна, вул. Пушкіна, 26, кв. 9.

## УРАЧЫСТАЯ АКАДЭМІЯ

5 лістапада г.г. адбылася ўрачыстая акадэмія, прысвечаная 51 гадавіне Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі ў дубінскай грамадскай святліцы. Акадэмію адкрыў старшыня мясцовай ГРН Мечыслаў Валенда, даклад прачытаў сакратар грамадскага камітэта ПОП тав. Ян Юрчук. У мастацкай частцы выступілі вучні з пачатковай школы, СПР-у і пазашкольная моладзь, якая аб'ядналася ў мастацкім гуртку пры святліцы.

Самадзейнікі дэкламавалі вершы і прозу, прысвечаныя знамянальнай гадавіне, спявалі песні.

На акадэмію сабралася многа людзей. На заканчэнне акадэміі дэманстраваўся савецкі кінафільм «Чапаеў».

**Янка Цялушэцкі**




**Дарагое Сэрцайка!**

Пазнаёмілася я з хлопцам ўжо два гады таму назад. Ён з суседняй вёскі. Адыходзячы ў армію, гаварыў, што будзе пісаць пісьмы і прыязджаць да мяне, а калі вернецца, дык ажэніцца са мною. Так і было. Янэк прыязджаў да мяне і пісаў пісьмы. І вось што здарылася. Была я аднойчы на фестыне ў суседняй вёсцы і там сустрэлася з Янкам. Мы ўгаварыліся, што сустрэнемся на забаве. На забаву я пайшла з сяброўкамі. Там пазнаёмілася з другім хлопцам і танцавала. Потым прыехаў Янэк. Убачыўшы, што я танцую з іншым, ён падыйшоў да іншай дзяўчыны і з ёю танцаваў цэлы вечар і нават адвёў яе дамоў. А я пайшла дамоў з Лёнікам, тым, што пазнаёмілася. Па нейкім часе я атрымала пісьмо ад Янка. Просіць, каб я яму адпісала. Мне здаецца, што Янэк вінаваты, бо павінен быў падыйсці да мяне. Парай, што рабіць? Адпісаць ці не? А мо хадзіць з Лёнікам, Янэк мне падабаецца, а я яму. Толькі, Янэк жа ж абяцаў мне, што за 8 месяцаў ажэніцца са мною! Не ведаю, што рабіць. Чакаць на яго ці сябраваць з Лёнікам

**Галіна з Гайнаўшчыны**

**Дарагая Галіна!** Напэўна, тут віна Янка, які, прыйшоўшы на забаву, не падыйшоў да цябе, а захаваўся зусім нетактоўна. Пэўна, што ты не мусіла паўвечара чакаць пад сценкай на Янка. Танцаваць жа са ўсімі можна, і нічога тут дрэннага. Аднак Янэк, хіба, зразумеў гэта, калі прыслаў да цябе пісьмо і просіць адпісаць. Ці адпісаць — гэта твая справа. Але мне здаецца, што ты не кахаеш Янка, бо сама пішаш, што спадабаўся табе Лёнік. Калі б ты кахала Янка, ніхто б тады табе так хутка не спадабаўся. А для таго, каб спяшацца замуж, сапраўды, Галіна, няма сэнсу. Пачакай. Падумай. Не зводзь Янка, калі яго не кахаеш, а выберы таго, каго падказвае табе тваё сэрца.

**Сэрцайка**

## ГАЙНАУКА



Школа нумар 1 у Гайнаўцы.



Кожную сераду у Гайнаўцы кірмаш. Сяляне вяртаюцца дамоў.



На вуліцы Вызвалення.

Фота: Янка Цялушэцкі




■ На дарозе Сямяцічы—Мілейчыцы недалёка вёскі Сычы забіўся на матацыклі Мікалай Сутынец. Было яму 28 год. Ён па-п'янаму імчаўся сваёй «эмзэткай» па жвіраванай дарозе. Разагнаўшы матацыкл, ён не змог яго ўтрымаць, і так закончыў сваё маладое жыццё. Мікалай Сутынец апошнім часам пастаянна жыў у Пулавах. У Сямяціцкі павет прыехаў на пабыўку да сваякоў.

■ Язэп Хмялеўскі з вёскі Рыкачэва ў Сакольскім павеце, праязджаючы вечарам 3 лістапада г.г. праз вёску Гродзіск, стукнуў матацыклам пяцігадовага хлапчука Андрэя Шчэрбу, які неспадзявана выбег на вуліцу. На шчасце, вялікай трагедыі не было. Дзіця атрымала толькі лёгкія параненні.

■ Апоўдні 4 лістапада г.г. у будынках гаспадара Язэпа Жэра з вёскі Рускія Тварагі, у Сямяціцкім павеце, нечакана ўспыхнуў пажар. Згарэла клуня і абора. Страты ацэнены на 50 тысяч злотых. Уступнае следства паказала, што агонь расклалі дзеці.

■ У тым жа Сямяціцкім павеце, але ў вёсцы Гродзіск, таксама 4 лістапада г.г. а 9 гадзіне вечара агонь знішчыў 4 клуні са збожжам і сельскагаспадарчымі прыладамі. У хлявах згарэла жывёла. Страты пацярпелі чацвёра сялян. Іх высокасць ацанілі на 150 тысяч зл. Устаноўлена, што агонь зацярушыў праз сваю неасцярожнасць гаспадар вёскі Гродзіск — Войцюк.

■ У вёсцы Рыбалы, Бельскі павет, ад пажару пацярпеў 62-гадовы гаспадар Якім Баніфацюк. Агонь знішчыў яго клуню са збожжам і прыладамі. Страты ацэнены на 95 тыс. злотых. Прычыны пажару не ўстаноўлены.

**Асака**

# КІНО

## ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

,,Jedyna szansa" (NRD), 26—27.XI, ,,Dwaj w stepie" (radz.), 28—29.XI, ,,Intrygantki" (czeski), 30.XI—1.XII.

**Дубіны**

,,Ja twój syn" (węgierski), ,,Życie zamku" (franc.), 30.XI—1.XII.

**Нараўка**

,,Poranki młodości" (rumuński), ,,Rok Franka W" (polski), 27.XI—1.XII.

**Нарва**

,,Lekarstwo na miłość" (polski), ,,Gra bez reguł" (czeski), 27.XI—1.XII.

**Чыжы**

,,Jak się masz Vero" (węgierski), ,,Pamiętnik pani doktór" (franc), 27.XI—1.XII.

**Дубічы Царкоўныя**

,,Gdy miłość przemija" (jugosł.), ,,Stajnia na Salwatorze" (polski), 27.XI—1.XII.

## БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

,,Julia, Anna, Genowefa" (polski), ,,BS-38-15" (NRD), 27.XI—1.XII.

**Орля**

,,Pałace w płomieniach" (rumuński), ,,Pod karnawałową maską" (kubański), 27.XI—1.XII.

**Райск**

,,Jowita" (polski), ,,Hatari" (USA), 27.XI—1.XII.

## БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

,,Noc Iguary" (USA), ,,Dziewczyna" (węgierski), 26—29.XI.

**Міхалова**

,,Mam 16 lat" (NRD), 26—27.XI, ,,Gdzie jest generał" (polski), 28—29.XI, ,,Hasło Korn" (polski), 30.XI—1.XII.

## САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

,,Skarb bizantyjskiego kupca" (czeski), 26—27.XI, ,,Rękopis znaleziony w Saragossie" (polski), 28—29.XI, ,,Za waszą i naszą wolność" (polski), 30.XI—1.XII.

**Шудзялава**

,,Dr Fabricjusz działa" (NRD), ,,Mocne uderzenie" (polski), 27.XI—1.XII.

## ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

,,Świat grozy" (polski), ,,Rozwód z miłości" (węgierski), 27.XI—1.XII.

**Новы Двор**

,,Pożegnania" (polski), ,,Stajnia na Salwatorze" (polski), 30.XI—1.XII.

**Ліпск**

,,Dywersanci" (jugosł.), ,,Hatari" (USA), 30.XI—1.XII.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK ,,Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych ,,Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ ,,Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

B.Z.Graf. G-3 NAKŁAD 6486

